# «САМЫ СТРАШНЫ ТЭЗІС,

## які знішчыў усю нашу гісторыю,— гэта тэзіс аб бездзяржаўнасці Беларусі»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

ў гэтай заблытанай інфармацыі. Дзеля гэтага мусіў развітацца з педагагічнай працай. Тым больш, што расло адчуванне неэфектыўнасці сваёй работы. Ды і якая магла быць эфектыўнасць, калі падрастала пакаленне, цалкам пазбаўленае гістарычных ведаў пра сваю Бацькаўшчыну, калі ўсё больш і больш людзей пачалі саромецца сваёй «вясковай» мовы, грэбаваць ёю. Нават асобнага курса айчыннай гісторыі не было ў школе. Некаторыя звесткі ўпляталіся ў агульны курс гісторыі СССР. І толькі ў 10-м класе, калі вучні рыхтаваліся да экзаменаў на атэстат сталасці, настаўнік ім тлумачыў, як трэба адказваць на 4—5 пытанняў па нашай гісторыі.

І ў народзе, ведаеце, сталі фарміравацца зусім скажоныя ўяўленні пра нашу гісторыю, расло нейкае пачуццё непаўнацэннасці. Пачну я, скажам, расказваць пра нашу гісторыю, пра полацкіх князёў людзям. Яны ж мне: «Кінь ты пра нейкую там гісторыю Беларусі, ніякай Беларусі не было, ніякага цара беларускага не было». Мне цяжка было бачыць гэту катастрафічную для нацыі сітуацыю. Уявіце, у якім прыніжаным стане апынуўся народ, пазбаўлены гісторыі. Вядома, самы страшэнны тэзіс, які знішчыў усю нашу гісторыю, гэта тэзіс аб бездзяржаўнасці Беларусі. Маўляў, дзяржавай беларусаў ашчаслівілі толькі ў 1919 годзе. А да гэтага мы былі заваяваны Кіевам, пасля Літвой, Польшчай, а ў рэшце рэшт вызвалены Расіяй.

Па стану здароўя я ў канцы 50-х пайшоў на пенсію. І засеў за вывучэнне летапісаў і хронік.

**— Беларускасць беларуса сёння ў грамадстве пачынае станавіцца прэстыжнай, нават прыносіць дывідэнды. А як да вашай беларускасці ставіліся ў грамадстве тады, калі страх і боязь нядаўніх рэпрэсій жылі яшчэ ў кожнай душы, у кожнай сям'і, а прынцып «перакоўкі» непаслухмяных у спецлагерах дзе-нідзе дзейнічаў?**

— Мая беларускасць рэзала вочы ўладам на працягу доўгага часу. Я ж заўсёды гавару па-беларуску. Думаў таксама па-беларуску. Раскажу вам такі выпадак. У 1966 годзе начальнік Маладзечанскага камітэта дзяржаўнай бяспекі Іваноў выступаў на нейкай нарадзе агітатараў і папярэджваў слухачоў аб пільнасці, аб ворагах. Сказаў таксама, што і ў іх на Маладзечаншчыне ёсць такое «живое ископаемое» — Мікола Ермаловіч. Гэта ж па яго паняццях атрымлівалася, што ўсё беларускае ўжо даўно сканала, засталіся толькі паасобныя экземпляры, ад якіх, можа, някепска было б і пазбавіцца. Людзі, якія слухалі тыя палымяныя выступленні, расказвалі, што прамоўца нават цытаваў некалі сказанае мною ў 1948, 1950, 1960 гадах.

**Менавіта ў гэты час у наэлектрызаванай атмасферы напярэдадні XXIII з'езда партыі педагог па адукацыі, літаратар, вакол якога групаваліся здольныя, смелыя, прагныя да ведаў маладыя паэты і празаікі, заняўся вывучэннем гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Каб выжыць і мець магчымасць займацца гісторыяй, Мікалай Іванавіч мусіў стаць рабочымнадомнікам. У таварыстве сляпых яму прапанавалі склейваць каробкі. Так і павялося ў іх сям'і: з раніцы гаспадар працуе ў бібліятэцы, пасля абеду — клеіць каробкі. А каб не губляць дарма часу і зберагчы зрок мужа для больш важных спраў, жонка, таксама педагог-гісторык, чытае яму ўслых свежыя газеты, часопісы, пакуль той клеіць. А таксама правіць стыль яго артыкулаў, друкуе іх на машынцы. Памяці жонкі, Лідзіі Цімафееўны Ермаловіч, прысвяціў вучоны галоўную працу свайго жыцця — кнігу «Старажытная Беларусь».**

**— З якімі цяжкасцямі сутыкнуліся вы, самастойна заняўшыся вывучэннем гісторыі Беларусі?**

— Даследаванні, летапісы — усё было ў маім распараджэнні. Спачатку я заняўся вывучэннем манаграфіі, пасля—летапісаў.

Як вы ведаеце, Полацкі летапіс не дайшоў да нас, згарэў. Гісторык Тацішчаў быў апошнім, хто трымаў у руках адзін з яго спісаў. Ён паспеў зрабіць толькі некалькі выпісак. Між іншым, гэтымі выпіскамі Тацішчава асабліва і не карысталіся даследчыкі. Такім чынам у якасці крыніц былі летапісы, урывачныя паведамленні, звесткі пра нашу гісторыю. У такіх абставінах гісторык чымсьці нагадвае палеантолага, які, скажам, па чэрапе, асобных костках можа аднавіць аблічча дагістарычнай істоты. Маючы ў сваім распараджэнні толькі дэталькі — намаляваць карціну. Вось такая паўстала задача. Дзе б ні знаходзіўся, пастаянна думаў пра гэта, супастаўляў, аналізаваў. Факты ж можна і так, і гэтак павярнуць. А ўвогуле летапісы — невычарпальная крыніца для сур'ёзнага даследчыка. Сёння паглядзеў — адно ўбачыў, праз некаторы час убачыш зусім іншае.

І вось які вывад я зрабіў, ён і здзівіў, і збянтэжыў мяне: нашы шаноўныя даследчыкі, як гэта ні прыкра, не карысталіся тэкстамі, самастойна не працавалі з крыніцамі. Яны бралі толькі тое, што было прыведзена іншымі, іх папярэднікамі. Калі тыя нешта прапускалі, то і яны паўтаралі ўслед.

Ну, а самі летапісы, іх доўгае і грунтоўнае вывучэнне, перакрыжаваны аналіз рускіх, беларускіх, руска-літоўскіх летапісаў, тацішчаўскіх звестак, нямецкіх і польскіх хронік дазволілі грунтоўна прасеяць гісторыю Полацкай і іншых зямель і адкінуць мякіну, выказаць свае меркаванні, здагадкі, заўвагі.

Пасля напісання кнігі «Па слядах аднаго міфа» я вырашыў працягваць работу па старажытнай гісторыі Беларусі, узяўшы ўжо полацкі перыяд. Я заглыбіўся ў матэрыял настолькі, унутры бушавалі такія страсці, такія пачуцці, што сам сабе іншым разам здаваўся вар'ятам, які існуе ў некалькіх вымярэннях — у мінулым і ў сучаснасці. Тысячагадовую гісторыю маем! Гэта гісторыя — эпапея мужнасці і непераможнасці. Наша гісторыя рана зрабілася трагедыяй. Былі моманты, калі здавалася (асабліва нашым непрыяцелям), што трагедыя пераходзіць у агонію. Аднак мы ўсё ж выстаялі. І ў нас ёсць будучыня.

**...Мы гутарым з Міколам Ермаловічам у цесным калідорчыку бібліятэкі, дзе апошнія 20—25 гадоў ён бывае амаль штодзённа. А жыве ў Маладзечне. І кожную раніцу амаль дзве гадзіны на электрычцы туды і дзве — назад увечары. У выхадныя дні таксама.**

**Некалі ў жонкі Мікалая Іванавіча суседзі пыталіся: «Відаць, многа твой муж грошай зарабляе, не ведае ні святаў, ні выхадных. Сябе хоць бы пашкадаваў». Нічога тады не адказала жанчына цікаўным. А грошай ад той неймаверна карпатлівай і напружанай працы ў сям'і не прыбывала. Ды і не дзеля грошай дапамагала яна ва ўсім гэтаму апантанаму чалавеку. Любіла яго, ведала, што робіць вялікую і карысную справу.**

**Хіба проста ўвесь час ісці супраць плыні, пераадольваць перашкоды? Памятаю, як упершыню ўбачыла Міколу Ермаловіча ў чытальнай зале «Ленінкі» гадоў 15 назад. Ён падносіў блізка-блізка да твару кнігу, аж не верылася, што так можна нешта бачыць. А ён бачыў толькі так. Альбо выцягваў з сумкі павелічальнае шкло і, сагнуўшыся, падоўгу застываў у такой нязручнай позе. Сёння зрок стаў яшчэ горшым, дактары прапанавалі зрабіць аперацыю, але без гарантыі. Ён адмовіўся. Працягвае працаваць над віленскім перыядам гісторыі, спадзяецца дабрацца да Люблінскай уніі. Піша фактычна наўздагад. А каб трымаць сябе ў форме — строгі рэжым, з раніцы зарадка і халодны душ.**

**Але ж ездзіць штодня ў Мінск ужо не хапае сіл. Прыкра пісаць пра тое, што нарэшце прызнаны і любімы народам вучоны-гісторык, які паклаў жыццё сваё на алтар навукі, як раней, так і цяпер не мае ад сваёй Беларусі элементарнай удзячнасці і падмогі ў працы. Неяк некалькі гадоў назад у Саюзе пісьменнікаў яму паабяцалі выдзеліць аднапакаёвую кватэру ў Мінску, але далей абяцанняў не пайшло. І таму мусіць дзеля нас з вамі, няўдзячных суайчыннікаў, гэты мужны і самаахвярны чалавек робіць пакутлівыя пераезды з горада ў горад, фактычна рызыкуючы жыццём...**

**...Глыбокія зморшчыны прарэзалі твар Міколы Ермаловіча. За тоўстым шклом акуляраў — спакойныя вочы сумленна пражыўшага на зямлі чалавека, якога лёс захаваў для нас з вамі, для Беларусі. Перажытае, вядома, пакінула рубцы і шрамы на сэрцы, але не зрабіла яго ні злым, ні жорсткім, ні пакрыўджаным. З нейкай дзіцячай даверлівасцю, бясхітраснасцю расказвае Мікола Ермаловіч пра сябе. З цеплынёй і ўдзячнасцю — пра сяброў. Але так і не вымавіў ён услых словы пра сваю такую выпакутаваную і такую пяшчотную, пранізлівую любоў да зямлі продкаў, да сваіх супляменнікаў. Ды любоў гэтая і адданасць Беларусі — у кожным яго ўчынку, у кожным радку напісаных ім кніг.**

БЕЛАРУШЧЫНА

**Такі ўсеабдымны тэрмін як «менталітэт» толькі параўнаўча нядаўна стаў ужывацца ў айчыннай навуковай літаратуры. Раней праблемы гэтага круга замыкаліся на паняццях нацыянальнага характару ці этнапсіхалогіі. У даволі шматлікіх дарэвалюцыйных публікацыях па этнаграфіі беларусаў рассеяна вялікая колькасць меркаванняў аб складзе іх розуму, характары пачуццяў і мыслення, духоўнай дзейнасці, здольнасці разважаць і мець сваю думку.**

ЗАПРАШАЕМ ДА ПАЛЕМІКІ

# МЕНТАЛІТЭТ БЕЛАРУСАЎ ВАЧАМІ РУСКАГА

### НЯМА ВЫСОКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СВЯДОМАСЦІ. АЛЕ ЁСЦЬ САКРЭТ ЖЫЦЦЯСТОЙКАСЦІ НАРОДА

У савецкі перыяд пасля некаторага ўсплеску інтарэсу да гэтай тэмы на рубяжы 20-х гадоў даследаванні па ёй былі спынены. У гуманітарных навуках СССР дамініравала разуменне грамадскага развіцця выключна як пастушальнага працэсу класавай барацьбы, якая вядзе да непазбежных сацыяльных рэвалюцый. Натуральна, для такога інтэгрыруючага паняцця, як менталітэт, месца ў гэтай схеме не было. Праўда, перыяд «хрушчоўскай адлігі» даў даследчыкам пэўны імпульс. Але ідэалагічнае табу не было знята і гэта прывяло да парадоксу, калі мы маем бліскучыя работы па менталітэту сярэдневяковай Еўропы і не маем іх аналагаў адносна народаў былога Савецкага Саюза.

У сучаснай Беларусі апошнія гады адзначаны павышанай увагай да праблем этнагенезу, гісторыі і этнаграфіі беларусаў, моўна-культурным працэсам. Аднак правядзенне ў 1973 годзе навуковай канферэнцыі па этнагенезу беларусаў было забаронена ўладамі, а сённяшнія разважанні пра менталітэт беларусаў пакуль што не выходзяць за рамкі газетна-часопіснай палемікі.

Наўрад ці менталітэт адносіцца да такіх паняццяў, якія могуць быць разгледжаны, прааналізаваны і замацаваны амаль з матэматычнай дакладнасцю. Паводле вобразнага выказвання Р. Віртанена, нацыянальны характар кожнай сучаснай нацыі нагадвае палімпсест, пергамент, на якім па старым, больш старажытным тэксце напісаны новы; варта змыць верхні слой, і пад ім з'яўляецца нябачны спачатку, іншы раз моцна пашкоджаны старадаўні. Схематычнасць і спрошчанасць гуманітарных навук у СССР і ў Беларусі, якія доўгі час развіваліся ва ўмовах ідэалагічнага прэсінгу, не заўсёды дазваляюць раскрыць усе бакі беларускага менталітэту з дастатковай паўнатой. Гэты артыкул таксама не прэтэндуе на поўнае асвятленне праблемы.

Безумоўна, цэнтральную і даволі далікатную праблему беларускага менталітэту ўяўляе неакрэсленасць, размытасць самасвядомасці беларусаў. Калыску беларускага этнасу даследчыкі шукаюць у Полацкім княстве і ў Навагрудскай Літве. Так узнікае тэорыя двухкарэннасці беларусаў, якая суправаджаецца жорсткай палемікай аб ролі балцкага субстрату і магчымасці прызнання беларусаў балта-славянамі. Апошняе дзесяцігоддзе паралельна з гэтымі спрэчкамі ўзнікла «яцвяжскае пытанне»: аб існаванні ў палескім рэгіёне асобнага народа з уласнай мовай, гістарычнымі і культурнымі асаблівасцямі (таварыства «Палісьсе», правядзенне ў 1990 годзе ў Мінску Заходнепалескай (Яцвяжскай) навукова-практычнай канферэнцыі). Кіраўнікі гэтага таварыства гавораць аб варыянце Беларуска-Палескай рэспублікі.

У тым, што беларусы на працягу некалькіх стагоддзяў траплялі на мяжу процістаяння двух славянскіх цэнтраў — польскай кароны і Маскоўскага царства — другая, ледзь ці не асноўная, прычына расшчаплення іх менталітэту і галоўны адказ на пытанне аб нізкіх тэмпах і незавершанасці развіцця беларускага этнасу. Палітыка ігнаравання інтарэсаў беларускага народа мае даўнія традыцыі і сілкуецца шматвяковымі імкненнямі Польшчы пашырыцца за кошт усходніх, а Расіі — за кошт заходніх беларускіх зямель. Характэрнай рысай каланіяльнай палітыкі Польшчы і Расіі з'яўлялася не толькі тэрытарыяльная экспансія, але і пастаяннае імкненне змяніць этнічную арыентацыю народа (апалячыць ці русіфікаваць), каб умацавацца тут на стагоддзі і абгрунтаваць законнасць сваіх дамаганняў.

Метад этнічнай «пераплаўкі» беларусаў у палякаў аказаўся больш эфектыўным. Напрыклад, працэс апалячвання на Віленшчыне насіў лавінападобны, абвальны характар. Страта нацыянальнай прыналежнасці зверху, у пануючых слаях («апалячаная» шляхта), крыху кампенсавалася захаваннем этнічнага і ментальнага адзінства ў народных нізах. Гэта дазваляе некаторым даследчыкам гаварыць пра спецыфіку беларускай нацыі як нацыі пераважна «сялянскай», што, адпаведна, адбілася ў менталітэце беларусаў.

Канфесійная прыналежнасць лічыцца адной з найважнейшых прыкмет пры фарміраванні менталітэту. Для беларускага народа характэрна шматканфесійнасць. Суадносіны ўплыву праваслаўя і каталіцтва мяняліся ў розныя гістарычныя перыяды. Рэфармацыйны рух другой палавіны XVI стагоддзя (часцей за ўсё ў форме кальвінізму) у пачатку наступнага стагоддзя змяніўся каталіцкай контррэформай. Існаванне з 1596 года ўніяцкай царквы, афіцыяльна ліквідаванай Мікалаем I ў 1839 годзе, дапаўняе гэтую складаную карціну. Такая шматканфесійнасць захавалася і сёння. Пры гэтым у рэлігійным жыцці Беларусі заўсёды было больш палітыкі, чым рэлігіі.

Даследчыкі рускага менталітэту нярэдка падкрэсліваюць, што ён складваўся ва ўмовах жорсткага ўзброенага процістаяння і гэта адыграла адну з рашаючых роляў у яго абліччы. Пад звон мячоў і залпы гармат ішло фарміраванне і беларускага менталітэту. Аднак ні адна з войнаў, што пракаціліся па тэрыторыі Беларусі, не была нацыянальнай вайной выключна беларусаў. Беларусы былі ахвярамі і ўдзельнікамі многіх войнаў, але ніколі не былі ініцыятарамі.

Беларусы — народ класічнай партызанскай вайны. Абозы Карла XII, фуражыры Напалеона, легіянеры Пілсудскага, тылы вермахта ў гады другой сусветнай вайны сустрэлі на беларускай зямлі ўпартае супраціўленне. Гэта барацьба не рыхтавалася загадзя, узброеныя ячэйкі ўзнікалі спантанна, а пасля адыходу непрыяцеля бясследна знікалі, зусім не становячыся, па класічнай гістарычнай схеме, асновай для стварэння нацыянальнай арміі.

Каштоўным інструментам для інтэрпрэтацыі менталітэту з'яўляюцца даныя лінгвістыкі. Класічнай работай на гэтую тэму па-ранейшаму застаецца брашура У. Пічэты «Белорусский язык как фактор национально-культурный». Многае для разумення менталітэту можа даць вывучэнне граматычных форм. Але нават у правапісе беларусы не маюць адзінства, існуе шэраг выданняў, што выкарыстоўваюць нормы правапісу, адмененыя рэформай 1933 года. Беларусы — адзін з нямногіх народаў свету, што карыстаюцца двума алфавітамі; кірыліцай і лацінскім. Пытанне аб пераходзе на лацінскі алфавіт іншы раз ставіцца і сёння.

Гістарычнай асаблівасцю Беларусі з'яўляецца даволі выразная спецыялізацыя народаў, якія яе насялялі, пэўных галінах дзейнасці.

Гэтыя асаблівасці дыктаваліся зменай дзяржаўна-гістарычных умоў, войнамі, адміністрацыйнымі і дэмаграфічнымі пераменамі. З пачатку XX стагоддзя з'явілася стойкая тэндэнцыя да расшырэння сфер дзейнасці беларусаў, і гэтая тэндэнцыя, нягледзячы на ўсе гістарычныя складанасці, захавалася і сёння.

Не лішнім будзе зазначыць, што менталітэт народа нярэдка капіруе менталітэты іншых, суседніх, этнасаў. Аднак працяглая адсутнасць паўнацэннай нацыянальнай дзяржаўнасці ў беларусаў прывяла да таго, што разуменне суседа ў Беларусі, як, зрэшты, і ў цэлым у Савецкім Саюзе, было размыта. Сусед знаходзіўся ўнутры нас, а імперскае мысленне зусім не з'яўляецца, як гэта спрабуюць іншы раз сёння сцвярджаць, прэрагатывай толькі рускага народа.

Своеасаблівасць сучаснага становішча заключаецца ў тым, што менталітэт беларусаў не выклікае трывогі ў суседзяў. У той жа час у Беларусі — на палітычным і бытавым узроўнях, у прэсе — выказваецца занепакоенасць наконт польскай культурна - рэлігійнай экспансіі («пальшчызны») і рускага ўплыву («імперскай нацыі»). Гэта вядзе да спроб вызначэння беларускага менталітэту толькі на ўласным узроўні і ўласнымі сіламі. Для такога падыходу характэрна змытасць карціны: беларусаў характарызуюць як працавіты, гасцінны, ціхі народ, г. зн. скарыстоўваюць своеасаблівы джэнтльменскі набор, прыдатны для апісання любога этнасу і ад якога не адмовіцца ніводзін народ. Ідзе шырокая прапаганда міфа аб талерантнасці беларусаў.

Агульным перакананнем многіх прадстаўнікоў інтэлектуальнай думкі з'яўляецца погляд на Беларусь як на перакрыжаванне, мост паміж Еўропай і Азіяй, Захадам і Усходам. Пры гэтым стараюцца не заўважаць, што на месца такога моста прэтэндуе нямала краін, ад Германіі да Кіргізіі, а таксама тое, што гэтыя прэтэнзіі могуць быць рэалізаваны толькі пры наяўнасці пэўнага палітыка-эканамічна-культурнага патэнцыялу і ўмоў.

Многае становіцца ясным, калі прыняць на ўзбраенне тэзіс аб незавершанасці працэсу фарміравання беларускай нацыі. Канец XIX стагоддзя і палітычныя падзеі XX-га далі шэраг імпульсаў кансалідацыі беларусаў у нацыю, але пакуль што не далі самой нацыі. Пэўным індыкатарам гэтага з'яўляюцца слабасць, аморфнасць і інстытуцыйная неаформленасць беларускай інтэлігенцыі. А менавіта ж у інтэлігенцыі нацыя і яе менталітэт набываюць свой голас.

Па сутнасці, менталітэт дабудоўваецца класічнай літаратурай і мастацтвам, класічнай гісторыяграфіяй (канцэпцыяй нацыянальнай гісторыі), класічнай філасофіяй (нацыянальнай філасофскай школай). Класіка, пры ўсёй умоўнасці такой градацыі з'яў выводзіць этнас і яго менталітэт на ўзровень сусветнага, усечалавечага разумення праблем.

Сёння можна гаварыць аб бясспрэчна замацаванай традыцыі класічнасці ў беларускай літаратуры, дзе «жывы класік» Васіль Быкаў замыкае пляяду сваіх папярэднікаў. Пакуль яшчэ гісторыкі на падступах да стварэння канцэпцыі нацыянальнай гісторыі, хоць ідзе актыўнае акайміванне яе праблем, а Мікола Ермаловіч адыграў у беларускай самасвядомасці ролю Мікалая Карамзіна, адкрыўшы, перафразіруючы Пушкіна, Старажытную Беларусь, як Калумб — Амерыку. Больш складана гаварыць аб нацыянальнай філасофскай школе. Прэтэнзіі ідэалогіі нацыянальнага Адраджэння няздольныя запоўніць гэтую, пакуль яшчэ пустую, нішу.

Як расцэньваць шматабліччасць менталітэту беларусаў? З'яўляецца ён механічным змяшэннем запазычаных паняццяў і рыс? Ці, наадварот, гэта вялікае поле, кожны з пунктаў якога можа стаць кропкай росту? Ці не ў гэтай пластычнасці сакрэт жыццястойкасці беларусаў, якія да кожнай улады паварочваліся выгадным для сябе і знаёмым ёй наборам якасцей, такім чынам адказваючы на гістарычны выклік?

Парасткі новага беларускага менталітэту будуць складвацца ў пакуль што нязвыклых рамках Рэспублікі Беларусь, якая заявіла аб сваім суверэнітэце і незалежнасці. Менавіта гэта вызначыць, як будуць фарміравацца ўласныя каштоўнасці і сацыяльныя перадумовы ўспрымання навацый у беларускім грамадстве, у якім ідэалагічным і пазнавальным асяроддзі, і якая будзе структура будучага менталітэту. Ёсць падставы меркаваць, што паліфанія ў менталітэце беларусаў стане ўзрастаць па меры ўваходжання Рэспублікі Беларусь у сусветнае супольніцтва.

**Андрэй КІШТЫМАЎ.**

# ІГРАЕМ «ДЗІЦЯ ВІФЛЕЕМА»

Тэатр-студыя кінаакцёра ў Мінску запрасіў гледачоў на чарговую прэм'еру. Публіка сабралася багемная, патрабавальная і даволі скептычная. Ішлі не проста на прэм'еру, а «на Таццяну Мархель», вядомую артыстку, а таксама «на не менш вядомы дуэт бацькі і сына Пузыняў», якія, як было абвешчана, удзельнічаюць у спектаклі і іграюць на народных інструментах. Канешне, цікавасці дабаўляла і імя рэжысёра Мікалая Пінігіна, які зарэкамендаваў сябе папярэднімі пастаноўкамі, асабліва «Тутэйшымі» Янкі Купалы, што сталі з'явай у культурным і грамадскім жыцці Беларусі.

Гэты кароткі ўвогуле спектакль (усяго 40—45 хвілін), мала падобны на драматычнае дзеянне, як бы збянтэжыў нават тых сталічных знатакоў, якія шмат чаго бачылі. Рэдкія апладысменты пасля заканчэння спектакля былі таму пацвярджэннем.

— Не трэба здзіўляцца, бо гэта не камерцыйная пастаноўка, — растлумачыў пазней рэжысёр-пастаноўшчык М. Пінігін. — Спектакль, які вы ўбачылі, я думаю, не будзе збіраць вялікую аўдыторыю, ды ён і не разлічаны на яе. На прафесіянальнай сцэне ўпершыню зроблена спроба ажыццявіць такое сінтэтычнае відовішча, рэканструяваць сродкамі сучаснага мастацтва такую з'яву нашай нацыянальнай культуры, як батлейка. Я нават скажу: тое, што вы ўбачылі, вельмі ўмоўна можна назваць спектаклем. Хутчэй гэта культурная, адраджэнцкая акцыя. Мы хацелі ажыццявіць даволі дзёрзкую ідэю — спалучыць хрысціянства праваслаўнае, якое ёсць у батлейцы, з простанародным поглядам на яго.

Для інфармацыі: літаратурнай асновай дзеі «Дзіця Віфлеема» сталі Евангелле ад Мацвея (беластоцкае выданне) і арыгінальная батлейка былога Віцебскага павета, а таксама малітвы, народныя песні Смалявіцкага раёна, якія запісала ад сваёй маці і выконвае артыстка Таццяна Мархель.

Гэты своеасаблівы мона-спектакль артысты мяркуюць паказваць у навучальных установах, проста недзе на вуліцы ў горадзе ці ў вёсцы, там, дзе ёсць блізкі кантакт з гледачом.

**Таццяна АНТОНАВА.**

## Парады на ўсякі выпадак

Адпраўляючыся ў дарогу, вазьміце з сабою гумавую стужку, якую можна выразаць па спіралі з велакамеры. Ёю з поспехам можна адрамантаваць парваную ў дарозе велапакрышку. Абматайце гэтай стужкай пашкоджанае месца і напампуйце кола для нармальнага ціску. Гума служыць значна больш ізаляцыйнай стужкі і дазваляе праехаць пасля рамонту больш за 300 кіламетраў.

Калі пры пагрузцы бульбы выкарыстоўваюцца звычайныя металічныя вілы, надзеньце на іх вострыя канцы невялічкія кавалачкі гумавых трубачак падыходзячага дыяметра. Яны захаваюць бульбу ад пашкоджання.

Дарожная мыльніца — зручная рэч. каб зрабіць інструмент для ашкурвання. Замяніць выкарыстаную шкурку на новую — справа некалькіх секунд.

Галінкі хатніх кветак можна падвесіць да сцяны, выкарыстоўваючы ліпкую стужку.



Для гравіроўкі па жалезу, шклу, пластмасе можна выкарыстаць ролік ад шкларэза. Яго насаджаюць на вось любога маленькага маторчыка.

Фарбаваць пэндзлем з вылазячым шчаціннем — пакуты. Зрабіце хамуцік па памеру пэндзля, надзеньце яго на абойму, якая заціскае шчаціне, і моцна сцягніце болцікам. «Лінька» спыніцца.

Калі шарыкавая ручка зламалася па разьбе, а новай пад рукой няма, не спяшайцеся яе выкідваць. Каб можна было яшчэ некаторы час пісаць, праткніце канец ручкі разам са стрыжнем нагрэтым кавалкам дроту.

Мыльніца з гумавымі прысоскамі дрэнна трымаецца на сцяне. Дастаткова працерці бензінам ці вымыць з пральным парашком паверхні прысосак і змазаць іх гумавым клеем. Калі клей прасохне, прыцісніце мыльніцу да чыста вымытай кафлянай сценкі — мыльніца будзе трымацца добра.



ЗААПАРК У КВАТЭРЫ

## Вы набылі кацяня

### МЕНЮ ДЛЯ МАЛЫШОЎ

Кацяняты ссуць кошку 3 ці 3,5 тыдня. Потым іх пачынаюць падкормліваць: спачатку гатаваным цёплым малаком, у якое дабаўляюць сырое яйка, праз некалькі дзён кормяць ужо вадкай малочнай кашай. Крыху пазней даюць і сырую ялавічыну. К канцу першага месяца жыцця кацяня есць усё тое, што і дарослыя кошкі.

У маленькага кацяняці апетыт выдатны. Але не балуйце свайго любімца: важна з самага пачатку прывучыць яго да разнастайнай ежы. Калі кацяня карміць адной рыбай, дык неўзабаве яно будзе адмаўляцца ад усяго астатняга. Давайце яму малако, тварог, смятану, малочныя кашы. Абавязкова ў рацыёне павінны быць сырое і варанае мяса, а таксама рыба (сырая і вараная) з рознымі дабаўкамі —«Геркулесам», рысам, агароднінай. Гэты корм павінен быць асноўным. «Геркулес» і рыс прапусціце праз кавамолку. Мяса ці рыбу пасыпце гэтым «парашком», старанна размяшайце. Звычайна пасля такога снедання каціная міска бывае пустой —з'ядаецца ўсё без астатку. Агародніну (буракі, капусту) прапусціце праз мясарубку ці натрыце на дробнай тарцы і таксама змяшайце з мясам ці рыбай.

**Галоўнае ў кармленні — пазбягайце смажанай, салёнай і салодкай ежы. Асабліва важна гэта для катоў, таму што яны схільныя да вельмі цяжкай хваробы — утварэння камянёў у мачавым пузыры.**

У сырым выглядзе не трэба даваць прэснаводную рыбу (ляшча, плотку, карасёў і некаторых іншых). У сырой рыбе змяшчаецца фермент, які разбурае вітамін В. Багатыя гэтым вітамінам сырыя гавяджыя сэрца, печань і ныркі. Яны карысныя яшчэ і таму, што змяшчаюць і некаторыя іншыя, неабходныя для арганізма, вітаміны. У печані, напрыклад, змяшчаюцца вітаміны А і Д. Хоць бы зрэдку давайце кацяняці печань, сэрца ці ныркі. Неабходны і сырыя яйкі: у іх жаўтку асабліва шмат вітамінаў А і Д. Два-тры разы на тыдзень дабаўляйце да асноўнага корму (мяса ці рыбы) некалькі кропель алею — крыніцы вітаміну Е. Прарасціце ў вазонах авёс ці пшаніцу. Зялёныя іх парасткі — вітаміны «на дэсерт».

Ва ўзросце да трох месяцаў кацяня кормяць 6 разоў на дзень, з трох да чатырох—5 разоў, з чатырох да пяці—4 разы, з пяці да шасці месяцаў—3 разы. Пачынаючы з паўгода яго кормяць 2 разы на дзень, як і дарослую кошку.



ХАТНІЯ НАРЫХТОЎКІ

## Як захаваць сала

Калі сала астыне, натрыце яго соллю, перцам з прымессю свежага лаўровага ці лавандавага ліста. Пасыпце зернем гарчыцы. Яна — выдатны кансервант. Затым на дно бочкі кладуць 3—4 добра вымытыя камяні. На іх у два рады ўкладваюць кавалкі сала скурай уніз, затым зноў слой камянёў і два слаі сала скурай уніз. У такім парадку запаўняюць усю пасудзіну. Пакладзенае такім чынам сала захоўваецца ў склепе ці падвале без псавання больш года, не жаўцее, не пакрываецца сліззю і не мае непрыемнага паху.

## Кумпяк

Свініну выкарыстоўваюць нятлустую. Кумпякі і лапаткі вытрымліваюць на холадзе 1—2 сутак. У невялікіх лапатках выразаюць косці, мякаць згортваюць рулетам і перавязваюць. Саленне праводзяць сухім ці мокрым (у расоле) спосабам.

**Пры саленні ў расоле** на 100 кг мяса трэба 8 кг солі, 800 г цукру, 64 г салетры харчовай. Усё гэта растваpаюць у 18 літрах гатаванай вады. Неабходна прасачыць, каб салетра растварылася ўся, інакш вэнджаніна атрымаецца наздраватая.

Склаўшы свініну ў чыстую драўляную бочку, заліце яе халодным расолам і прыкрыйце зверху драўляным кружком з адтулінамі. Пакладзіце лёгкі груз з чыстых камянёў.

Праз кожныя 10 дзён засоленыя кавалкі перакладваюць: ніжнія наверх, верхнія ўніз. Саленне працягваецца ад 6 да 8 тыдняў у залежнасці ад велічыні кавалкаў.

